

— Як хочацца, каб у дзяцей і ўнукаў было лепшае жыццё...
— Каб яно было лепшым, не замінайце маладым вырашаць свой лёс.

Фота photo.bymedia.net

**ПУЛЬС**

## Цэнтр «Маці і дзіця»

Прыкладна ў лістападзе ў Беларусі пачне працаваць Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр "Маці і дзіця". Ён аб'ядноўвае дзейнасць 7-й клінічнай бальніцы Мінска, Навукова-даследчага інстытута мацярынства і дзяцінства і Навукова-даследчага інстытута спадчынных і прыроджаных захворванняў, што дазволіць комплексна вырашаць праблему здароўя маці і дзіцяці. Спецыялісты цэнтра будуць аказваць высокакваліфікаваную кансультацыйную, лячэбную і прафілактычную дапамогу. Тут жа будзе арганізавана работа па стварэнні заканадаўчай базы, што тычыцца здароўя маці і дзіцяці.

У новай установе будуць прымяняцца самыя перадавыя акушэрскія і гінекалагічныя, родадапаможныя і дыягнастычныя тэхналогіі, што дазваляюць праводзіць самыя складаныя аперацыі з мінімальным хірургічным умяшальніцтвам.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## «Пінскдрэў» пакарае Маскву

Найбуйнейшы вытворца мэблі ў Беларусі ЗАТ "Пінскдрэў" у студзені—жніўні гэтага года адгрузіў сваёй прадукцыі ў Цэнтральную федэральную акругу Расіі на 867,5 тыс. долараў ЗША, што амаль у 2,3 разы больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. З улікам паставак у сталіцу Расіі экспарт у ЦФА склаў 2,7 млн. долараў ЗША.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Затрымалі... ікру

800 бляшанак кантрабанднай ікры затрымалі 10 кастрычніка пінскія мытнікі на пункце пропуску "Гарынь" падчас агляду цягніка Санкт-Пецярбург—Львоў.

Паводле слоў старшага інспектара аддзела мытных расследаванняў Пінскай мытні Барыса Шпакоўскага, які аглядаў цягнік, кантрабандны тавар быў схаваны ў 12-м вагоне, дзе не было пасажыраў. У міжстолевай прасторы 9-га купэ мытнік знайшоў сумку, а ў ёй — 140 бляшанак зярністай ласасёвай ікры. Пры больш дакладным аглядзе былі знойдзены яшчэ чатыры сумкі з ікрой, расфасаванай у бляшанкі.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## Інкубатар для «куранят» ад бізнесу

Шырокі крок насустрач малому бізнесу зрабіў Віцебскі гарвыканкам, аказаўшы дапамогу ў здзяйсненні даўно наспелага праекта. У абласным цэнтры нарэшце падрыхтаваны да адкрыцця інкубатар малога прадпрымальніцтва.

У адрамантаваным будынку былога дзіцячага садка, дзе мусіць размясціцца інкубатар, ужо ўстаноўлена міні-АТС ды іншае арганізацыйна-дзелавое абсталяванне, на якое з гарадскога бюджэту выдзелена 30 мільёнаў рублёў.

Асноўнай задачай інкубатара, праект якога распрацавала акцыянернае таварыства "Прававая група "Закон і парадак", з'яўляецца прадастаўленне пачынаючым дзеячам малога бізнесу бясплатных офісных і вытворчых памяшканняў, юрыдычных і бухгалтарскіх паслуг.

На плошчах інкубатара малыя прадпрыемствы змогуць размяшчацца да 3 год, пакуль не дамогуцца фінансавай самастойнасці.

Ужо ў бліжэйшы час месцы ў інкубатары атрымаюць каля 20-ці суб'ектаў гаспадарання, ад 10-ці з якіх загадзя паступілі заяўкі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Як у Віцебску «мінёры» не даюць людзям пагаварыць пра жыццё-быццё

*Даўно выпрабаваны сцэнарый бруднай па сутнасці барацьбы з "нязручнымі" грамадскімі дзеячамі выкарысталі віцебскія ўлады 3 кастрычніка. У адзін з выхадных дзён яны сарвалі сустрэчу старшынь жыллёва-будаўнічых кааператываў горада з дэпутатам гарсавета Вольгай Карач, якая здабыла трывалы аўтарытэт выкрыццём заган у дзейнасці мясцовых камунальшчыкаў, і выканаўчым дырэктарам Асацыяцыі ўласнікаў Мінска Эдуардам Латушкам.*

На сустрэчу прыйшлі больш за трыццаць кіраўнікоў віцебскіх ЖБК, зацікаўленых у шчырай размове аб сваіх набалелых праблемах.

Прысутныя ўжо амаль гадзіну абмяркоўвалі адпаведную тэму, калі ў памяшканне завіталі міліцыянты і ад імя свайго абласнога начальства запатрабавалі, каб усе ўдзельнікі мерапрыемства разышліся, бо памяшканне быццам бы замініравана, аб чым, маўляў, нехта паведаміў па тэлефоне.

Абмен думкамі некаторы час яшчэ працягваўся, але настрой у людзей ужо быў не той, які патрэбны для дзелавой сустрэчы, а частка прысутных пайшла дадому — "далей ад непрыемнасцяў".

Што і казаць: спосаб зрыву карысных і цікавых для грамадскасці акцый абраны не новы. Ён, безумоўна, шыты белымі ніткамі, але каму ад гэтага лягчэй? Хіба што таму, хто загадаў разагнаць "сходку", дзе маглі прагучаць дакладныя і справядлівыя словы аб становішчы з камунальным абслугоўваннем жыхароў Віцебска і сітуацыяй у жыллёва-будаўнічых кааператывах. Да таго ж на той дзень яшчэ канчаткова не быў вырашаны ўдзел Вольгі Карач у парламенцкіх выбарах (яе скарга на пазбаўленне кандыдацкага статусу разглядалася ў адпаведных інстанцыях), а таму яе сустрэчу з кіраўнікамі ЖБК нехта ва ўладных колах палічыў перадвыбарным мерапрыемствам.

А такім прынцыповым, паграмадзянску сумленным людзям, як Вольга, шлях у наш сённяшні парламент адкрываць нельга — гэта ў Віцебску ведае нават самы дробны чыноўнік, не гаворачы ўжо аб людзях з пагонамі. Вось і была (ужо далёка не ўпершыню) прыдумана ўяўная бомба.

Дзіўна: няўжо "мінёры" не разумеюць, што гэткімі хлуслівымі, няўклюднымі аперацыямі толькі памнажаецца недавер грамадзян да ўлады, і не толькі мясцовай?

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ**

## Ці будзем зімой з цяплом?

*На пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў разгледжана гатоўнасць народнай гаспадаркі краіны да працы ў асенне-зімовы перыяд 2004—2005 гадоў.*

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар прэм'ер-міністра Беларусі **Яўген МЯЛЕШКА**, на пасяджэнні было заяўлена аб тым, што выканана большасць арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па забеспячэнні ўстойлівага функцыянавання галін народнай гаспадаркі Беларусі ў асенне-зімовы перыяд.

Эксплуатацыйныя запасы топачнага мазуту на 1 верасня ў цэлым па краіне склалі 611,9 тыс. тон (101,9 працэнта ад задання на 1 кастрычніка 2004 года). Нарыхтавана 2 млн. 35 тыс. 800 кубічных метраў дроў. Поўнасцю задаволена патрэба Беларусі ў паліўных брыкетах. З ліпеня 2004 года па сакавік 2005 плануецца вырабіць 1 млн. 158 тыс. тон паліўных брыкетаў, што на 322 тыс. тон (38 працэнтаў) больш у параўнанні з аналагічным перыядам 2003—2004 гадоў.

Разам з тым не забяспечваюцца закупкі паліўных брыкетаў у арганізацый тарфяной прамысловасці ва ўзгодненых аб'ёмах, нізкімі тэмпамі пагашаецца запазычанасць за раней атрыманыя брыкеты. Аб'ёмы цеплавых нагрузак, што перадаюцца ад ведамасных кацельняў на ЦЭЦ энергазабяспечваючых арганізацый, якія ўваходзяць у склад канцэрна "Белэнерга", знаходзяцца ніжэй за ўстаноўленыя заданні.

Эксплуатацыйныя запасы каменнага вугалю на 1 верасня склалі 112,5 тыс. тон (75,1 працэнта да аналагічнага перыяду 2003 года). Найбольш цяжкае становішча складваецца ў арганізацыях ЖКГ Брэсцкай і Мінскай абласцей, дзе запасы гэтага віду паліва склалі адпаведна 21 і 32 працэнты ад неабходнай колькасці, а таксама ў арганізацыях МУС — 21,8 працэнта да леташняга ўзроўню.

Так што даваць станоўчы адказ на пытанне: "Ці будзем зімой з цяплом?" пакуль рана. Калі тэрмінова не будуць прынятыя захады па паляпшэнні справы, то зіма для многіх можа аказацца надта халоднай.

Не выпадкова, на тым пасяджэнні прэзідыума прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі запатрабаваў ад кіраўнікоў органаў дзяржкіравання, іншых дзяржарганізацый, падначаленых ураду, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама да 15 кастрычніка 2004 года пад асабістую адказнасць прыняць меры па ліквідацыі недахопаў у падрыхтоўцы да працы ў асенне-зімовы перыяд аб'ектаў народнай гаспадаркі, у першую чаргу аб'ектаў жыццезабеспячэння, сацыяльнага і камунальна-бытавога прызначэння; прывядзенні ў належны стан кацельняў і сістэм цеплазабеспячэння, што належаць арганізацыям аграпрамысловага комплексу, ЖКГ і іншым арганізацыям, якія размешчаны ў сельскай мясцовасці, а таксама стварэнні неабходных запасаў паліва.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

# Ума палатка

## Большой обман маленьких людей

***Так называемая Палата представителей Национального собрания второго созыва стала, можно сказать, историей. Четыре года назад, 15 октября 2000 года, белорусские граждане пришли на избирательные участки с надеждой, что их депутаты активно включатся в решение острых социально-экономических проблем. Вопреки многим фактам и факторам (недемократичность выборов, отсутствие реальных полномочий у депутатов, блокировка принципа разделения властей) люди надеялись на то, что депутаты ПП НС второго созыва будут патриотами, начнут думать не только о своем кармане и благополучии, но и о простом человеке, развитии страны, ее авторитете в мире.***

**Ярослав РОМАНЧУК**



### Помогали строить бюрократическое государство

Люди надеялись, что депутаты попытаются вернуть уважение к закону, что заставят исполнительную власть заняться решением проблем семей и предпринимателей. Анализ принятых нормативных актов наглядно демонстрирует, что Палата целых четыре года бессмысленно гоняла воздух. Она не предприняла значимых усилий, чтобы стать настоящим парламентом. Она бессильно взирала на то, как исполнительная власть отгораживает нашу страну от всего мира *(данные утверждения не относятся к депутатам группы "Республика", которые действительно заслуживают почетного статуса парламентариев, патриотов своей страны)*. Палата показала интеллектуальную и ресурсную импотенцию, покорно санкционируя проводимую А.Лукашенко экономическую политику. Она стала ее соучастницей и полностью разделяет ответственность за стремительный рост цен, обнищание регионов, развал в реальном секторе, создание финансовой пирамиды в бюджетной и банковской системах.

При попустительстве Палаты № 2 в Беларуси создана одна из самых забюрократизированных экономик региона. По индексу экономической свободы мы как были в последней десятке в мире, так и остались (на 146-м месте из 155 стран). В начале октября депутаты в очередной раз бездумно проголосовали за бюджет на 2005 год. Они поддержали высокие налоги, непрозрачный бюджет и неэффективные инвестиционные программы. Все законы о бюджете, которые были предложены правительством, проходили Палату практически в неизмененном виде. Некоторые эксперты рассчитывали на депутатов-бизнесменов, которые были пропущены властями в Палату. Мол, эти люди знают экономику и будут стремиться снизить налоги, обеспечить права собственности и улучшать инвестиционный климат. За четыре года эти люди полностью разочаровали. Их деятельность в Палате № 2 едва ли выходила за рамки собственных деловых проектов.

За время деятельности Палаты № 2 налоговая нагрузка и присутствие государства в экономике усилились. Так, в 2001 году доходы консолидированного бюджета составляли 34% ВВП, а с учетом внебюджетных фондов — 48,8% ВВП. Сейчас этот показатель составляет 51% ВВП, а с учетом налоговых недоимок и кредитов — почти 53% ВВП. Очевидно, депутатов-предпринимателей больше интересовало уменьшение их индивидуального налогового бремени. Дошло до того, что некоторые "реформаторы" в Палате (помните слова небезызвестного В.Хрола?) предложили ввести НДС на разговоры по сотовой связи. Как говорят, боже упаси от таких "реформаторов".

Палата представителей № 2 ни разу не поставила под сомнение способность чиновников управлять половиной ВВП, которая перераспределялась через бюджет и внебюджетные фонды. Значительно выросло число объектов незавершенного строительства. В них заморожено около 12% ВВП. Не сокращается объем убытков и число устойчиво неплатежеспособных предприятий. Депутаты инертно взирали, как правительство тормозит реструктуризацию при низких ценах на газ и электроэнергию. Их убаюкали отчеты Минстата, которые говорили о стабильном рынке труда и росте доходов населения. Именно они санкционировали экономическую политику, продолжение которой, по мнению бывшего министра экономики В. Шимова, может привести к исчезновению 30% существующих рабочих мест.

### Конституцию не защитили, дружбу не сберегли

А. Лукашенко легко проводил через Палату все свои, я бы сказал, антирыночные, антипредпринимательские нормы. Депутаты "проглотили" перерегистрации, лицензирование, изгнание предпринимателей с удобных для людей мест на улицах. Они не защитили национальный бизнес от бесчинства контролирующих органов и санкционировали агрессивную кампанию против малого и среднего бизнеса. Палата представителей № 2 так и не поняла опасности монополизации государством рынка банковских и страховых услуг, адвокатуры и нотариата. Палата не предприняла никаких усилий, чтобы заставить исполнительную власть выполнить одно из самых важных экономических положений Конституции — статью 13: *"Государство предоставляет всем равные права для осуществления хозяйственной и иной деятельности, кроме запрещенной законом, и гарантирует равную защиту и равные условия для развития всех форм собственности... Государство способствует развитию кооперации. Государство гарантирует всем равные возможности свободного использования способностей и имущества для предпринимательской и иной не запрещенной законом экономической деятельности".*

Многие депутаты Палаты обещали избирателям экономическую дружбу с Россией и нормализацию отношений с Европой. И здесь обманули. Они оказались в плену личных политических амбиций А. Лукашенко и спокойно взирали на начало холодной торговой войны против российских и украинских товаропроизводителей. Наши соседи с запада и севера (Польша, Литва и Латвия) стали членами Европейского Союза, а против граждан Беларуси выстроился прочный визовый заслон. Не в меньшей степени страдают и товары белорусских производителей. Это также результат деятельности не признанной ЕС и ПАСЕ Палаты № 2.

### Почему не надо голосовать за депутатов Палаты № 2

Трудно назвать причины, по которым нужно было бы поддерживать депутатов Палаты № 2. Экономическая некомпетентность, правовое невежество, политическая нечистоплотность и обыкновенная бытовая трусость. Они говорят "Да" своим "шкурным" интересам. Они говорят "Нет" Беларуси. Они поставили мировой рекорд по скорости принятия бюджета — 20 минут! Этим самым они еще раз расписались в собственной политической импотенции. Четыре года назад избиратели заключили с ними своеобразный договор. Депутаты растоптали его своими руками, голосуя только за те законы и указы, которые укрепляют власть чиновников. Их законотворческая деятельность не сократила число бедных в стране, зато сами себе они присвоили статус госслужащих. Это прямой путь к высокой пенсии и другим льготам. Палатники расширили полномочия контролеров, но забыли о правах собственников и инвесторов. Они превратили Беларусь в страну, опасную для инвестиций, но благоприятную для защиты интересов монополий.

Отношение к палатникам легче сформировать, если представить, чтобы мы вышли играть с ними с футбол. Договорились не использовать допинг, определились с судьей, согласовали формат и место проведения матча Мы, как честные избиратели, выполнили свою часть договора — поддержали их на выборах. Они же начали мухлевать чуть ли не с первой минуты. Накачались анаболиками. Подкупили судью. Сделали наши ворота шире и выше. Дисквалифицировали наших лучших игроков при помощи "купленных" чиновников из футбольной федерации. Включили в свою команду подставных игроков. То есть они нарушили все правила. Они нас "кинули". Да, они выиграли этот матч. Многие из них беззастенчиво идут к нас с просьбой провести еще один матч на очередные четыре года. С грязными руками и совестью нельзя делать чистую политику. Сегодня очевидно, что перед нами не самостоятельная команда игроков. Перед нами — марионетки в ловких руках одного человека, который привык играть в шахматы не фигурами, а доской.

### Палата № 2: «неуд» за качество и ответственность перед избирателем

Период законотворчества Палаты представителей № 2 с 2000 по 2004 год не стал временем решения жизненно важных для экономики проблем. Буксует налоговая реформа. Бюджет кроят, как хотят, превращая госорганы в коммерческие структуры. Заблокированы приватизация и институт банкротства. Жилищно-коммунальный сектор стабильно повышает цены, не опасаясь конкуренции и контроля. Отечественную торговлю загоняют в жесткие рамки полугосударственных торговых центров и "цивилизованных" точек торговли. Не известно, когда начнутся административная и пенсионная реформы. Системы здравоохранения и образования спят в объятиях государственных монополий. Институт страхования национализирован, а о фондовом рынке, как об усопшем, лучше ничего не говорить.

На фоне растущей угрозы массовой безработицы, финансовой безнадеги в сельском хозяйстве, при неизбежном росте издержек предприятий от новых цен на газ за свою деятельность Палата представителей № 2 заслужила твердую оценку "неудовлетворительно". Имитация активности явно не адекватна стоящим перед страной вызовам и угрозам. Проблемы, как снежный ком, нарастали, а Палата представителей № 2 жила как будто в параллельном мире. Ее депутаты войдут в историю белорусского законотворчества, как люди, которые за зарплату 400—500 долларов в месяц и социальные подачки от исполнительной власти укрепили стену, железный занавес между властью, то есть чиновниками, и простыми людьми. Они принимали законы, за которые нам больно и обидно, а их детям будет стыдно, если, конечно, они станут патриотами своей страны, а не уедут на чужбину.

# Лукашенко оказался в оппозиции здравому смыслу

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**— И все-таки весьма распространенным является мнение, что Александра Лукашенко просто некем заменить. Насколько реально появление сильного соперника к 2006 году?**

— Уникальность Лукашенко — миф, тщательно лелеемый государственной пропагандой. Таких "уникальных" директоров совхозов у нас тысячи, поэтому мы даже не будем серьезно обсуждать эту тему.

Какая же это уникальность, если в Беларуси не создана атмосфера творчества, духовности и элементарной чистоплотности. Публичные разносы и унижения, вечный поиск врагов, постоянное навешивание ярлыков и кличек. Вечное склонение оппозиции, прямые угрозы в ее адрес. Вспомните недавнее указание президента не оставить от оппозиции камня на камне. А ведь это разжигание социальной розни — уголовно наказуемое, между прочим, деяние. К тому же в оппозиции люди, хорошо образованные, высокоинтеллигентные, стремящиеся сделать Беларусь развитым, богатым государством, в котором была бы обеспечена народу достойная жизнь. Ничего другого никто не предлагает. Зачем же врать и придумывать чушь. Причем — бездоказательную! Разве к лицу президенту государства так издеваться над Станиславом Шушкевичем, бывшим руководителем Беларуси? Издеваться нагло, не по-мужски. То есть получается, что не мы, а Лукашенко является оппозицией. Мы выставляем праведные, конституционные цели, а он их не приемлет. Ему постоянно надо менять под себя Конституцию. Мы ищем друзей, а он врагов. Мы призываем беречь Конституцию, а он ее в очередной раз хочет перекроить. Заметьте, под себя, на свой размер, на свой вкус. Здесь он действительно уникален. И еще. За все десять лет ни разу не встретиться со своими оппонентами. Что мешало спокойно, рассудительно поговорить об имеющихся проблемах, задать друг другу вопросы, ответить на них. Ведь речь идет о представителях огромных слоев населения Беларуси.

Посмотрите, какие тематические программы на телевидении России. У Владимира Познера встречаются одновременно лидеры партий, депутаты, чиновники, журналисты, политологи. И ведь без оскорблений, конструктивно, обсуждают массу назревших проблем. Беларусь об этом и мечтать не может. У нас один артист, диктор и информатор. Говорит и говорит. Сочинит про нас сказку, а ответить нельзя. Не пускают на белорусское ТВ. Вот и создают мифы про оппозицию. Считаю это большим и серьезным упущением Лукашенко. Все могло и должно было быть не так. У нас должны были быть общие цели, задачи и добрые отношения.

Уверен, что можно было бы многие вопросы снять. Но нет. Я особенный, уникальный. Буду еще с "этими" говорить. А этих сегодня большинство. И честные выборы все бы показали. Он это понимает, потому и прибегает к оскорблениям.

Кроме того, хотелось бы хоть раз услышать, что Александр Лукашенко подразумевает под словом "дестабилизация обстановки". Заметьте, об этом он говорит чаще всего и складывается впечатление, что это как дамоклов меч. Достану и врежу, когда хочу. Но ведь есть конституционные права. Например, право на митинги, шествия. И когда эти шествия и митинги разгоняют дубинкой, это не дестабилизация?

Хотелось бы очень попросить разъяснения этого важного термина, чтобы не дестабилизировать дестабилизированную обстановку и жить в дружбе с властями.

Что касается сильных соперников, то уже сегодня по итогам встреч, собеседований, анализа отобраны пять кандидатов. Это высокопрофессиональные и порядочные люди, практически не имеющие отрицательного рейтинга. Вопрос их раскрутки для профессионалов — вопрос трехчетырех месяцев. Даже в условиях Беларуси с ее ограниченными возможностями негосударственных СМИ. Среди кандидатов люди разных профессий и возраста. Есть одна женщина. И сразу после референдума на фокус-группах начнется отработка вариантов их PR-кампаний.

**— Значит, просочившаяся в СМИ информация о том, что в России рассматривают Наталью Машерову в качестве кандидата на президентский пост верна?**

— Я не могу честно ответить на ваш вопрос, а врать не хочу.

Скажу только, что победить Лукашенко на выборах можно только ответив ассиметрично, только предложив народу нового любимца нации. У кандидата-женщины в этом смысле есть большое преимущество: в полемике с ней Лукашенко в любом случае проигрывает. Так, если для нее оппонирование действующему президенту — смелость и позиция, то для него — недостойные дрязги. Лукашенко бессилен против женщины. И чем больше грязи он и его пропаганда будут выливать на женщину-кандидата, тем ниже будет опускаться рейтинг президента в глазах его электората. Тем более что верные избиратели Лукашенко — это люди старше 55 лет, преимущественно женщины, поскольку многие мужчины в Беларуси до почтенных лет просто не доживают.

С другой стороны, мы понимаем и то, что женщина-глава государства — это для Беларуси несколько экзотичная постановка вопроса. Однако это не повод, чтобы отказаться от такой идеи. Примеров хороших достаточно. Нам нужен уют и тепло в отношениях между собой. Нам надо создавать нацию — Белорусский народ!

Не врагов искать и уничтожать, а общество создавать. Потому роль женщины в этом процессе будет велика.

**— И все-таки не будем питать иллюзий: белорусский режим держится не на старушках-пенсионерках, а на мощной чиновничьей машине и силовых структурах. Думаете, эти люди дрогнут?**

— Режимы, не имеющие социальной поддержки, рушатся как карточный домик. Рушатся одномоментно и быстро. Таков закон. А Лукашенко с каждым годом теряет эту самую поддержку. Старики уходят, поскольку такова логика жизни, и никакому президенту ее не изменить.

Силовые и правоохранительные органы есть и будут всегда. Они всегда служат государству и своему народу. Их содержит не президент, а народ. Я думаю, что каждый из них понимает ту полноту личной ответственности, преступить которую не хочет никто. Кроме того, среди них очень много профессионалов, которым всегда были чужды закулисные игры и разборки.

Он всеми силами цепляется за молодежь, создает БСМы и БРСМы, вводит курсы идеологии в школах и вузах, но этим самым только отталкивает от себя. Будьте уверены, что когда-нибудь в мемуарах он обвинит Латыпова, Пролесковского и Якубовича в собственном крахе. Впрочем, этих людей мне не жалко. А вот стать очевидцем того, как Лукашенко будет выступать свидетелем обвинения по делу главы Центризбиркома Лидии Михайловны Ермошиной, мне бы не хотелось. Дай Бог, чтобы я ошибся, но я допускаю такую ситуацию, когда при определенных обстоятельствах он будет утверждать, что Ермошина по собственной инициативе приписывала Лукашенко мифические проценты поддержки, а он искренне заблуждался. Так что универсальный совет чиновникам: не проявляйте инициативу и не позволяйте ни себе, ни начальству "искренне заблуждаться". Время не то! Это раньше вы могли говорить, что заблуждались вместе с народом, но народ-то уже прозрел.

Закончить хочу стихами А.С.Пушкина ("Друзьям", 1828 г.)

*"Беда стране, где раб и льстец*
*Одни приближены к престолу,*
*А небом избранный певец*
*Молчит, потупя очи долу".*

Желаю всем добра и ответственного голосования на выборах и референдуме. Голосуйте душой и сердцем.

Сегодня мы выбираем свою завтрашнюю жизнь!

**С генералом Валерием ПАВЛОВЫМ беседовала Елена НОВИКОВА.**

## Дзеці з праклёнам у крыві

У адной з камедый вялікага расійскага сатырыка Дзяніса Фанвізіна персанаж прыгадвае такую "байку". Нарадзіўся, маўляў, у рускай сялянкі хлопчык вагой у пяць пудоў, з вусамі і закрычаў: "Хачу гарэлкі!".

Тое, што ў Расіі часоў Кацярыны Другой успрымалася як анекдот, у сучаснай Беларусі стала рэальнасцю.

Доўга не ведалі, што рабіць, каб ўратаваць нованароджанага, які ўвесь час плакаў, дрыжаў і перасмыкаўся, медыкі аднаго з радзільных дамоў Оршы. І толькі спрактыкаваны ўрач-нарколаг Уладзімір Кувыркоў адразу вызначыў дыягназ: маці няшчаснага немаўляці была наркаманкай і ўжывала атрутнае зелле ў перыяд цяжарнасці.

Цяпер у Аршанскім псіханеўралагічным дыспансеры знаходзяцца на ўліку 390 непаўналетніх. Большасць з іх — наркаманы, ёсць таксама 19 таксікаманаў і адзін алкаголік. Усе яны пераняlі гэтыя згубныя хваробы ў спадчыну ад бацькоў.

З кожным годам на Віцебшчыне пашыраецца распаўсюджванне наркатычных раслін — канопляў (сыравіны для марыхуаны) і маку (сыравіны для опію). Толькі за сёлетні верасень у вобласці ўзбуджана 8 крымінальных спраў паводле фактаў вырошчвання і збыту раслін, што ўтрымліваюць наркатычныя рэчывы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**ПОГЛЯД**

## Ачмурэнне не можа быць вечным

Віктор Гюго, разважаючы пра лёс сваёй краіны, якая яшчэ напрыканцы XVIII стагоддзя дэкларавала прынцыпы народаўладдзя, а потым досыць доўга боўталася паміж рэспублікай і манархіяй, зрабіў афарыстычную выснову: "Усе арміі свету бяссільныя супраць ідэі, час якой надышоў". Сказаў пісьменнік гэта з нагоды падзеі, якая абразіла яго як чалавека і грамадзяніна — у выніку дзяржаўнага перавароту прэзідэнт Францыі абвясціў сябе імператарам Напалеонам III.

Віктор Гюго меў на ўвазе канкрэтную ідэю. Рэспубліканскую. Далейшая гісторыя пацвердзіла праваты генія французскай літаратуры. Францыя зноў стала рэспублікай. Але за сваё ачмурэнне, за прагу "моцнай рукі" краіна дорага заплаціла. Ваеннай катастрофай (паразай у Франка-Прускай вайне), якая стала катастрофай палітычнай — грамадзянскай вайной і нацыянальным прыніжэннем.

Тое, што верна для Францыі, будзе верна і для Беларусі. На пачатку мінулага стагоддзя нашчадкі крывічоў і ліцвінаў дасепелі да ідэі адраджэння сваёй дзяржавы пад новым гістарычным імем — Беларусь. У савецкі час прапаганда сцвярджала, што "Беларуская сацыялістычная дзяржаўнасць" — гэта падарунак нам ад "старэйшага брата" і вынік "ленінскай нацыянальнай палітыкі". Адно было незразумела: чаму гэта маскоўская шчодрасць у выглядзе права нацый на самавызначэнне, да таго ж вельмі абмежаванага "пралетарскім інтэрнацыяналізмам", перапала толькі менш як двум дзесяткам народаў. А народаў у Расійскай імперыі было дзве сотні. Справа ў тым, што дзяржаўнасць прыдбалі толькі тыя, хто здолеў заваяваць яе, як пяецца ў пралетарскім гімне, "своею собственной рукой". Беларусь — у тым ліку. Перашкодзіць нам не здолелі ні заходнія, ні ўсходнія нядобразычліўцы. "Усе арміі свету бяссільныя супраць ідэі, час якой надышоў".

У гісторыі ёсць адна парадаксальная заканамернасць. Калі Бог ці яшчэ якая там вышэйшая сіла хоча давесці людству, што нейкая з'ява абавязкова мусіць сцвердзіцца ці падзея адбыцца, дык на ролю выканаўцы вызначаецца самая непадыходзячая асоба. Так хрысціянства на Русі ўсталяваў кіеўскі князь Уладзімір "Красно солнышко". Гэтая істота была нелюддзю нават па крытэрыях сярэдневечча, калі маральнасць знаходзілася яшчэ ў эмбрыянальным стане і чалавечае жыццё каштавала ўвогуле нядорага. Але менавіта гэтае жывое ўвасабленне брыдоты паганства здзейсніла тое, на што, здавалася, ніколі не пойдзе. "Красно солнышко", падумаўшы, усё ж павёў свой народ за цывілізаваным светам...

Тыповы азіяцкі сатрап — маскоўскі цар Пётр Аляксеевіч, вядомы ў гісторыі пад псеўданімам "Пётр Вялікі", здзейсніў, хай сабе ў вельмі своеасаблівым стылі, шэраг "рэформ", якія ў перспектыве спрыялі еўрапеізацыі Масковіі.

Савецкі Саюз развалілі не мяцежныя нацыянальныя ўскраіны (што было б лагічна), а Расійская Федэрацыя, якая з'яўлялася ягоным эканамічным і палітычным стрыжнем. Як толькі РСФСР абрала ўласнага прэзідэнта, прэзідэнта СССР можна было адпраўляць ў адстаўку разам з краінай, якую ён узначальваў. А КПСС, дарэчы, распусціў сваім указам генеральны сакратар гэтай арганізацыі Міхаіл Гарбачоў. А ўсё таму, што логіка гісторыі не такая прасталінейная, як на першы погляд падаецца. Яе парадаксальнасць — адбітак заканамернасці.

Канешне, хацелася, каб першым прэзідэнтам суверэннай Рэспублікі была больш адпавядаючая важнасці гістарычнага моманту асоба. Але тое, што Беларуская дзяржаўнасць сцвярджаецца нават пры Лукашэнку, сведчыць аб тым, што беларускі народ мае саюзнікам Бога. Але Бог дапамагае толькі тым, хто сам на нешта здольны. Будзем пра гэта памятаць 17 кастрычніка. Прагаласуем за тое, каб нам было не сорамна называцца беларусамі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

НАПЯРЭДАДНІ

## Чым парадуе «Лістапад-2004»

20—26 лістапада пройдзе XI Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад-2004".

У ім возьмуць удзел прадстаўнікі 26 краін, у тым ліку Беларусі, Балгарыі, Ірана, Італіі, Кітая, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Сербіі, Украіны, Швейцарыі, Эстоніі, Японіі.

Як паведаміў старшыня фестывалю Расціслаў Янкоўскі, на кінафоруме будзе "вельмі сур'ёзнае журы", якое ўзначаліць вядомы расійскі рэжысёр Вадзім Абдрашытаў. Беларусь у журы прадставяць мастак кіно Валерый Назараў і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага Барыс Луцэнка.

Паводле слоў Р.Янкоўскага, у конкурснай праграме форуму заяўлены 15 карцін. Сярод іх: "Дунечка" (Беларусь), "Нацыянальная бомба" (Азербайджан), "Шыза", "Малітва Лейлы" (Казахстан), "Вадзіцель для Веры", "Свае", "Мой зводны брат Франкенштэйн" (Расія), "Змрок" (Украіна), "Самнамбула" (Эстонія), "Ракуда Гінза" (Японія). Па-за конкурсам будуць прадэманстраваныя фільмы "Над узроўнем мора" (Грузія), "Нямая прахалода" (Казахстан), "Прысвячэнне", "72 метры" (Расія) і іншыя. Плануецца паказ карцін "Пакуты Хрыстовы" і "Сэрца Чарнобыля" кінематаграфістаў ЗША.

Выканаўчы дырэктар кінафоруму Валянціна Сцяпанава паведаміла, што ўдзельнічаць у фестывалі жадаюць многія вядомыя акцёры, кінарэжысёры і дзеячы кінамастацтва: Ірына Алфёрава, Барыс Няўзораў, Аляксей Булдакоў, Эмануіл Вітарган, Данатас Баніёніс, Клара Лучко, Аксана Мысіна, Віктар Праскурын, Барыс Хмяльніцкі і іншыя.

Паводле яе слоў, сёлета большасць творчых мерапрыемстваў будзе прысвечана 80-годдзю беларускага кіно і 60-годдзю Вялікай Перамогі. Так, у рамках форуму пройдзе рэтраспектыўны паказ лепшых фільмаў пра вайну, выстава карцін "Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці мастакоў кінастудыі "Беларусьфільм", фотавыставы "Беларусьфільм" у асобах", "Міхаіл Пташук. Знак лёсу", прэзентацыя кнігі "Міхаіл Пташук". Таксама запланаваны кінаканцэрт "Якая музыка была, якая музыка гучала", юбілейная вечарына аб'яднання "Беларускі відэацэнтр" і іншыя мерапрыемствы.

Цырымонія адкрыцця фестывалю адбудзецца 20 лістапада ў Палацы Рэспублікі. На адкрыцці форуму плануецца пазаконкурсны паказ расійскага мастацкага фільма "72 метры".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

СТОП-КАДР



*Мінская восень...*

Фота photo.bymedia.net

СПОРТ

## Фаніпальскі «Дарожнік» выйшаў у паўфінал Кубка УЕФА па футзале

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе "Белаўтадара", у заключным матчы ў Скоп'е (Македонія) падапечныя Валерыя Дасько перамаглі сваіх асноўных канкурэнтаў — "Кайрат" (Алматы) — 5:4 і, заняўшы ў сваёй групе першае месца, упершыню за гісторыю беларускага міні-футбола выйшлі ў паўфінал Кубка УЕФА.

У паўфінальнай групе "Дарожнік" сустрэнецца з "Мурсіяй" (Іспанія), "Дынама" (Масква, Расія), "Шахцёрам" (Данецк, Украіна). Гульні пройдуць у сакавіку.

## М.Мірны выбыў у першым крузе «Кубка Крамля»

Максім Мірны саступіў у першым крузе адзіночнага разраду "Кубка Крамля" расіяніну Марату Сафіну ў трох сетах — 7:6 (10:8), 6:7 (2:7), 6:7 (1:7).

У парным разрадзе беларуска-расійскі дуэт Уладзімір Ваўчкоў/Тэймураз Габашвілі прайгралі расіянам Ігару Андрэеву/Мікалаю Давыдзенку — 3:6, 2:6.

## «Чарнобыльскі пас» італьянцаў

*Зборную Італіі перад пачаткам адборачнага матчу чэмпіянату свету па футболе з Беларуссю (сустрэча пройдзе 13 кастрычніка ў Парме) вывядуць на поле дзеці з рэгіёнаў нашай краіны, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Пра гэта паведаміла РІА "Новости".*

Гэта будуць беларускія дзеці, якія зараз жывуць у італьянскіх сем'ях у Балоньі і П'ячэнцы. А беларускіх футбалістаў будуць суправаджаць на поле італьянскія дзеці з мясцовай футбольнай школы.

З ініцыятывай адкрыць такім сімвалічным жэстам матч выступілі Федэрацыя італьянскіх асацыяцый добраахвотнікаў для Беларусі і пармская асацыяцыя "Дапамога для дзяцей Беларусі", якія штогод адпраўляюць у пацярпелыя раёны партыі гуманітарных грузаў і прымаюць у горадзе і правінцыі падчас летніх і зімовых канікул па 250 дзяцей з Беларусі.

На трыбунах пармскага стадыёна "Тардзіні" перад матчам будзе вывешаны вялізны транспарант "Трыццаць тысяч дзякуй за трыццаць тысяч усмешак дзяцей Чарнобыля".

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Міжнародны марафон у Маларыце

*Традыцыйны 21-ы Міжнародны марафон, што адбыўся ў Маларыце (Брэсцкая вобласць), сабраў рэкордную колькасць удзельнікаў.*

Як расказаў БелаПАН галоўны суддзя спаборніцтваў Мікалай Германюк, у ім бралі ўдзел больш за дзве тысячы аматараў бегу з Беларусі, Расіі, Украіны і краін Балтыі. Да прыкладу, самаму сталаму марафонцу мінчаніну Эдуарду Макарэвічу споўнілася 82 гады.

Першымі на старт выйшлі выхаванцы дзіцячых садкоў райцэнтра, якія прабеглі 300 метраў. Юныя спартсмены да 13 гадоў спаборнічалі ў бегу на адзін кіламетр. На дыстанцыях у 4, 15 і 42,195 кіламетра спаборніцтвы праходзілі ў чатырох узроставых катэгорыях. На дыстанцыі 42 кіламетры 195 метраў перамог Сяргей Папоў з Кіева, сярод жанчын першынствавала Ніна Коваль з Мінска.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

**13**
**кастрычнік**

**СЕРАДА**
Усх. 7.34 Зах. 18.17
Даўж. дня 10.43
Маладзік
14 кастрычніка

ЗДАРЭННІ

## Пажар у метро

Каля 600 чалавек былі эвакуіраваны са станцыі мінскага метрапалітэна "Магілёўская" — канцавой станцыі другой, Аўтазаводскай, лініі сталічнай падземкі.

Прычынай з'явіўся пажар у чацвёртым вагоне пададзенага на пасадку цягніка. Паколькі цягнік прыбыў з дэпо, людзей у ім не было. Прычынай узгарання стала кароткае замыканне. Здарэнне адбылося а 7-й гадзіне раніцы. Праз 50 хвілін рух цягнікоў са станцыі "Магілёўская" быў адноўлены.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Беларускія турысты не пацярпелі

У егіпецкім гатэлі "Хілтан", разбураным у выніку выбуху ў ноч з 7 на 8 кастрычніка, пражывалі двое грамадзян Беларусі. Ніводны з іх не пацярпеў. Аб гэтым БелаПАН паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС Руслан Есін. Абодва беларусы ўжо вярнуліся на радзіму. Нагадаем, што чатыры выбухі прагрымелі на мінулым тыдні на курортах Егіпта на Сінайскай паўвыспе. Паводле апошніх звестак, у выніку тэрактаў 34 чалавекі загінулі, 105 атрымалі раненні.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Наехаў на бардзюр

*Аўтамабільная аварыя адбылася ў мікрараёне Брэста "Кавалёва". Вадзіцель аўтамабіля БМВ-730, 21-гадовы жыхар Брэста, рухаючыся па вуліцы імя 28 ліпеня, не справіўся з кіраваннем і наехаў на бардзюр, потым ударыўся аб металічную апору асвятлення. У выніку вадзіцель і два пасажыры — 21-гадовы і 22-гадовы жыхары абласнога цэнтра — загінулі. Дзяўчына, якая знаходзілася з імі ў аўтамабілі, не пацярпела.*

У мінулыя суткі на тэрыторыі Брэстчыны адбылося шэсць дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх адзін чалавек загінуў, 5 атрымалі траўмы. "Асноўныя прычыны аварый — наезд на пешаходаў і сутыкненне транспартных сродкаў. Акрамя таго, супрацоўнікамі дарожна-патрульнай службы затрыманы 44 вадзіцелі, якія знаходзіліся за рулём у стане алкагольнага ап'янення", — дадаў І.Помін.

З пачатку года на дарогах Брэстчыны адбылося 765 ДТЗ, у якіх загінулі 183 чалавекі, сярод іх 15 дзяцей, паранены 789 чалавек, у тым ліку 95 непаўналетніх.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**



*Не аб'ехаў...*

Фота photo.bymedia.net

## У Гомелі з'явіўся сквер імя Кірылы Тураўскага

*Рашэнне аб наданні імя К.Тураўскага аднаму са сквераў у цэнтры Гомеля прыняў гарадскі Савет дэпутатаў.*

Напярэдадні Дня славянскай пісьменнасці і друку ў Гомелі, на пляцоўцы каля абласнога драматычнага тэатра, быў устаноўлены помнік К.Тураўскаму. Цяпер паводле рашэння Гомельскага гарадскога Савета дэпутатаў сквер, дзе ўстаноўлены помнік, будзе насіць імя гэтага славутага беларускага асветніка.

**Алена ПАСКАННАЯ.**





## У Пінску прайшоў фестываль польскай песні

*13-ы фестываль польскай песні, які сабраў больш за 200 прыхільнікаў польскай культуры з усёй Брэстчыны, прайшоў у Пінску*

На сцэне гарадскога Дома культуры выступалі творчыя калектывы з розных гарадоў Брэсцкай вобласці і Гродна, якія выконвалі творы польскіх аўтараў на мове арыгінала. Пасля заканчэння ўсім удзельнікам фестывалю ад арганізатараў песеннага форуму — Саюза палякаў на Беларусі і Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце — былі ўручаны падарункі і дыпломы. У холе Дома культуры праводзілася выстава-продаж вырабаў мастацкіх промыслаў.

Сярод ганаровых гасцей фестывалю была дэлегацыя з Беластока, якую ўзначаліў прэзідэнт горада Кшыштаф Савіцкі, а таксама прадстаўнікі Фонду дапамогі дзецям Гродзеншчыны і розных грамадскіх арганізацый.

У Пінску падобнае мерапрыемства праходзіць другі раз, упершыню пінчане прымалі ў сябе фестываль польскай песні ў 1998 годзе.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## Прыгнула на крокодила

60-летняя австралийка прыгнула на спину крокодилу, чтобы спасти своего соседа по туристическому лагерю, передает Рейтер. Почти четырехметровая рептилия в 4 часа ночи залезла в палатку к мужчине, где вместе с ним спали его жена и ребенок.

После того как крокодил почувствовал, что на него самого напали, он переключился на обидчицу и поволок ее к океану. В конце концов животное застрелил человек из соседней палатки.

Происшествие случилось на берегу залива Батерст в штате Квинсленд, и людей поблизости не должно было быть, но туристы поставили сигнальный маяк и привлекли таким образом внимание егерей, занимавшихся неподалеку отстрелом диких свиней. Раненых сначала отправили на ближайшую станцию рейнджеров, а затем по воздуху доставили в госпиталь. У мужчины оказались сломанными нога и рука, кроме того крокодил оставил на нем укусы и кровоподтеки. Женщина отделалась переломом руки.

## Британцы боятся пауков больше, чем террористов

Стали известны результаты социологического опроса, проведенного недавно в Великобритании.

Как передает телекомпания НТВ, у британцев хотели узнать, чего они боятся больше всего. Выяснилось, что на первом месте в рейтинге страхов стоит арахнофобия (боязнь пауков), и лишь потом уже терроризм. Психологи считают это неудивительным, поскольку боязнь пауков уходит своими корнями к древним временам, в то время как терроризм — явление современное.

Что касается остальных фобий, то после террористов идут: страх перед змеями, боязнь высоты, страх смерти, зубного врача, уколов, публичных выступлений и долгов. Сообщается, что страх перед криминалом, неудачами и приведениями не вошли даже в десятку.

## Американский фермер вырастил самую большую тыкву в мире

В США установлен новый мировой рекорд. Там выращена самая большая тыква в мире.

Как передает телекомпания НТВ, гигантский овощ весит 558 килограммов. Чтобы привезти тыкву на сельскохозяйственный фестиваль в Калифорнию, ее хозяину, 55-летнему фермеру Джоэлу Холанду потребовался небольшой грузовичок и целая гора полотенец, которыми он закрывал гигантский овощ от палящего солнца. Холанд продал тыкву за 6145 долларов. То есть по 10 долларов за килограмм.

КРЫМІНАЛ

## Ахвяра фальшывага інспектара

Ахвярай грабежнікаў, якія выдавалі сябе за інспектараў ДАІ, стаў прадпрымальнік з Оршы. "За кампанію" нацярпеўся страху і яго сябар.

На цьмяным восеньскім досвітку прыватны прадпрымальнік з Оршы разам з прыяцелем ехалі па трасе Орша—Лепель. Каля вёскі Забалацце іх спынілі двое мужчын у міліцэйскай форме і са святлоадбівальнымі жэзламі. Кіроўца спыніў свой мікрааўтобус "Фольксваген", але, як толькі выйшаў з яго, заўважыў, што "даішнікі" нейкія дзіўныя: апрануты ў нешта падобнае на маскараднае адзенне: на галовах — бейсболкі з кукардамі, на форме няма належных нагрудных знакаў. Не было побач з "інспектарамі" і службовай машыны з "міргалкай". На жаль, ратавацца аказалася позна. Грабежнікі спрытна скруцілі падарожнікаў, аднялі ў іх мабільныя тэлефоны і захапілі машыну, на якой і зніклі. А ў той момант, калі ахвяры нападу паспрабавалі ўступіць у барацьбу са злачынцамі, з прыдарожнага хмызняку выскачыў трэці бандыт і стрэліў у паветра з пісталета.

Начальнік Аршанскага РАУС Анатоль Куцко неадкладна аб'явіў перахоп грабежнікаў паводле аператыўнага плана "Сірэна". Мікрааўтобус знайшлі за кіламетр ад месца здарэння, а вось 13,5 мільёна рублёў, што былі ў машыне, зніклі разам з фальшывымі інспектарамі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Беларуская фірма распаўсюджвала дзіцячую парнаграфію

*За апошні месяц у 12 краінах арыштавана больш за тысячу чалавек за сувязь з міжнароднай злачыннай групоўкай, якая распаўсюджвала дзіцячую парнаграфію праз Інтэрнэт. У цэнтры гэтай сістэмы знаходзілася фірма, якая базіравалася ў Мінску і праз якую прадаваўся доступ да такога роду інфармацыі.*

Аб выніках аперацыі Інтэрпола паведамляе амерыканская газета "The Washington Times" ад 8 кастрычніка. Як паведамляў БелаПАН, у 2003 годзе ў дачыненні да беларускай кампаніі "Regpay" і амерыканскай "Connection USA" распачата расследаванне. У студзені 2004 года Інтэрпол правёў арышты трох кіраўнікоў беларускай фірмы, а таксама арышт двух выканаўчых дырэктараў амерыканскай фірмы.

Аўстралійскі камісар федэральнай паліцыі Мік Кілці ў інтэрв'ю "The Washington Times" назваў гэтае расследаванне "самым буйным у гісторыі міжнароднай паліцыі". Каля 200 аўстралійскіх грамадзян прыцягнуты да суда за абмен і набыццё парнаграфічных фатаграфій у беларускай кампаніі, шэсць з іх скончылі жыццё самагубствам.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Наступае грып

### Цяпер у Мінску назіраецца сезонны пад'ём колькасці захворванняў на грып і вострыя рэспіраторна-вірусныя інфекцыі (ВРВІ).

Як паведаміла БелаПАН загадчыца эпідэміялагічнага аддзела Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Фісенка, за мінулы тыдзень дыягназ ВРВІ пастаўлены 17,5 тысячы мінчан, у тым ліку — 9 тысячам дзяцей да 14 гадоў. Усплёск колькасці захворванняў не носіць эпідэмічнага характару і не звязаны з пачаткам эпідэміі грыпу, падкрэсліла спецыяліст. Сезонны рост колькасці захворванняў на ВРВІ пачаўся ў сталіцы напрыканцы верасня.

Паводле слоў Алены Фісенка, у паліклінікі Мінска ўжо паступілі 20 тысяч доз супрацьгрыпознай вакцыны для дзяцей і 66 тысяч доз — для дарослых. Медыкі раяць рабіць прышчэпкі супраць грыпу ў другой палове кастрычніка. У якасці прафілактыкі спецыяліст парэкамендавала выключна меры для агульнага ўмацавання: прымаць вітаміны, антыаксідантныя комплексы, сокі, фрукты, а таксама праводзіць працэдуры загартоўвання. На думку А.Фісенка, хіміяпрафілатыку пачынаць пакуль заўчасна, да такіх рэкамендацый неабходна прыслухацца напрыканцы кастрычніка.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Среда, 13 октября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05, 20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Арсенал".
**10.30, 17.05 "Терион".** Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "С юбилеем подождем".** Драма.
**13.45** Мультфильм.
**14.05** "Зона Икс".
**14.15** "На перекрестках Европы".
**15.15** "Марсупилами-2". Мультсериал.
**16.00** "5х5".
**17.30** "Кстати".
**19.05** "Спасатели".
**19.30** "Здоровье". Тележурнал.
**21.00** "Панорама".
**21.45** "Конспирология".
**21.55** Футбол. Италия—Беларусь.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.15** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 18.55 "Клон".** Сериал.
**09.55, 15.50** "Дом". Реалити-шоу.
**10.40** "Не только о футболе".
**11.00** "Дисней-клуб".
**14.50 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.35** "Фабрика звезд".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Пан или пропал". Поединок с Николаем Фоменко.
**20.00** "Время".
**21.00 "Выбор капитана Корелли".** Мелодрама.
**23.30** "Народный артист".

**РОССИЯ**

**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50, 19.55** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**16.10 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**17.40 "Бандитский Петербург".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.00 "Сармат".** Сериал.
**22.00** "Вести+".
**22.20** "Исторические хроники".
**23.15** "Эксперт".
**23.30 "Серые волки".** Драма.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Мир вашему дому".
**08.20** ("Культура) "Эпизоды".
**09.00** ("Культура") "Острова".
**09.40, 17.50 "Было у отца три сына".** Сериал.
**10.45** "Женсовет".
**11.00, 18.55 "Долгая дорога в дюнах".** Сериал.
**11.55** "Обычный необычный день".
**12.25 "Лекарство против страха".** Детектив.
**14.10** "Ностальжи".
**14.35** "Золотое сечение".
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** "Бум".
**15.40** Мультфильм.
**15.50 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.15** "Славянский базар в Витебске".
**16.30** "Из архивов БТ".
**16.55** "Любите ли вы театр".
**17.25** "Площадь искусств".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Апокриф".
**21.40** ("Культура") "Эпизоды".

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.15** "Криминальная Россия".
**09.45** "Женский взгляд".
**10.20** "Растительная жизнь".
**10.50, 18.40 "Граф Крестовский".** Худ.фильм.
**15.15** "Принцип домино".
**16.25 "Каменская".** Сериал.
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**19.50 "Кодекс чести".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40 "Секс в большом городе".** Сериал.
**22.15** "Стресс".

**СТВ+RenTV**

**06.30, 17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**07.50, 23.15** "Технология".
**08.10, 18.15** "Минск и минчане".
**08.25, 20.20** "Автопанорама".
**08.45** "Тема дня".
**09.00** "Таракан-робот". Мультсериал.
**09.25** "Русалка". Мультфильм.
**09.35 "Спорт будущего".** Боевик.
**11.10** "Закон и криминал".
**11.30** "Горячий лед".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Судьбы своей хозяйка".
**13.50, 18.30 "Солдаты".** Сериал.
**14.50, 17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.10** "Герои Эллады: я хочу, и я могу".
**16.50** "Игровой рефлекс".
**18.00** "Здравствуйте, доктор!".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Капитан".** Приключенческий фильм.
**23.30** "Баскетбольная среда".
**23.50 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.40** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Капитан Немо".** Сериал.
**08.10, 17.50, 19.40** "Телемагазин".
**08.15** "Классика Уолта Диснея". "Пострелята".
**09.10** "К-игра".
**09.15** "Россия — взгляд на власть".
**09.40, 19.50 "Бригада".** Сериал.
**10.30 "Экзистенция".** Триллер.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Погружение в бездну".** Фантастический фильм.
**19.35** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**21.05 "Тайна астероида".** Фантастический боевик.

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Семеро смелых".** Драма.
**09.30** "Доходное место".
**09.35** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Отдел "Х".
**11.50** "Квадратные метры".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Криминальный кроссворд".** Сериал.
**14.30** "Мода non-stop".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Каля-маля".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** "Русский век".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Эйс Вентура-2: Розыск домашних животных".** Комедия.
**20.40** "Репортер".
**21.40** "Материк".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "Таиров".** Драма.
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Экстремальный спорт. Экстремальные игры.
**10.00, 17.00, 19.30** Футбол. Кубок мира в Германии. Квалификационный круг.
**12.00** Пляжный волейбол. Мировой тур в Бразилии.
**13.00** Спидвей. Гран-при Норвегии.
**14.00** Теннис. Турнир WTA "Кубок Кремля" в Москве.
**18.00** Теннис. Турнир АТР в Австрии.
**21.00** Конный спорт. Кубок наций "Самсунг" в Греции.
**22.00** Конный спорт. Кубок мира в Норвегии.
**23.00** Парусный спорт. "Под парусом".
**23.30** Мультиспорт по средам.
**01.15** Новости "Евроспорта".
**01.30** Спидвей. Кубок мира в Англии.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 210 экз. Заказ № 752.